

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№246 (759) 17 снежня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**В Чикаго открылась выставка детского рисунка "Дети Чернобыля".**

Планируется, что выставка, на которой представлено около 100 рисунков детей, живущих в загрязненных районах Беларуси, будет экспонироваться в других городах США.

❑

**В Государственном комитете Беларуси по внешним экономическим связям проходит серия консультаций с представителями дипломатического корпуса расположенных в Минске посольств европейских государств.**

Целью таких встреч является обсуждение путей взаимовыгодного сотрудничества, а также установление деловых связей Беларуси с Европейским сообществом.

❑

**В Минске создан Белорусский фонд христианского предпринимательства.**

Он будет отстаивать интересы малого и среднего бизнеса, содействовать формированию конкуренции и цивилизованных рыночных отношений, основанных на принципах христианской морали.

❑

**Вчера в австрийской столице открылась ежегодная встреча министров стран — участниц Европейской ассоциации свободной торговли.**

Основные вопросы повестки дня — подготовка к предстоящему вступлению в силу с 1 января 1994 года договора о Европейском экономическом пространстве, а также проблемы сотрудничества с государствами Центральной и Восточной Европы.

❑

**В бомбоубежищах и подвалах провели вчерашний день жители как сербских, так и мусульманских кварталов Сараева.**

Интенсивные бои охватили вчера и западную Боснию.

❑

**В Казахстане вступил в силу закон о временном делегировании президенту и главам администраций дополнительных полномочий.**

Это решение принято в связи с самороспуском Верховного Совета и местных Советов народных депутатов.

❑

**В Кувейте принят закон, позволяющий силам безопасности проводить обыски в домах граждан страны с целью обнаружения и изъятия огнестрельного оружия.**

❑

**За лишение мандатов трех депутатов проголосовала палата депутатов национального конгресса Бразилии.**

"Избранники" обвинены в нарушении парламентской этики, подкупе конгрессменов и лишены всех депутатских полномочий.

❑

**Американская поп-звезда Мадонна, совершающая гастроли по странам мира, не будет допущена с концертом в Сингапур.**

Местные власти объяснили свое решение тем, что концерты Мадонны "граничат с непристойностью".




Рисунок Олега ПОПОВА.

### ВАЗ сбрасывает газ

**Вопреки утверждениям некоторых средств массовой информации, Волжский автозавод в Тольятти не остановился, а лишь перешел на сокращенную рабочую неделю.**

Семь тысяч рабочих и три тысячи служащих направлены в административный отпуск по 31 декабря с выплатой пособия.

Таковы вынужденные меры, которые приняло правление акционерного общества "АвтоВАЗ" в условиях, когда число некомплектно собранных автомобилей достигло двадцати пяти на один полностью собранный, а конвейеры стали простаивать ежедневно.

### Спорт-экспресс

**В Москве проходит традиционный международный хоккейный турнир "Приз "Известий", уже 26-й по счету.**

В первом матче группы "В" сборная Беларуси уступила российской национальной команде под руководством Бориса Михайлова со счетом 0:4. Во втором матче произошла первая сенсация турнира — французская сборная обыграла канадскую со счетом 2:0. В группе "А" Чехия разгромила норвежцев — 6:0.

❑

**"Борцы собирают друзей" — так будет называться большой художественно-спортивный праздник, который состоится 24 декабря в минском Дворце спорта.**

Участники праздника станут свидетелями церемонии проводов из большого спорта чемпиона Олимпийских игр, двукратного победителя всемирных первенств Командара Маджидова, который теперь стал главным тренером сборной республики по греко-римской борьбе.

*Уточняем*

### Кто попался в сети

**6 ноября с.г. в заметке "Шалит "юстицка!" наша газета рассказала, чем обернулись на деле слухи о том, что на центральном рынке Гомеля милиция берет взятки натурой.**

"В расставленные сети, — говорилось в заметке, — попались не милиционеры, а независимая частная юридическая фирма "Интерюст". Ее сотрудник М.Кравцов, действовавший под видом милиционера, был взят сразу же после получения им спиртного от гомельчанина К. Свободного торговца водкой привело в замешательство солидное красное удостоверение фирмы и угроза штрафа в 150 тысяч рублей." Директор фирмы И.Лазарев прислал в редакцию письмо с требованием дать опровержение — фирма не попалась.

Уточняем: вся фирма действительно не попалась. Что же касается ее сотрудника М.Кравцова, то он арестован и ждет суда. Ему предъявлено обвинение по статье 145, части 1 Уголовного кодекса Республики Беларусь — вымогательство.

Анатолий ЛИПСКИЙ.

### Заграница нам поможет?

**В Минск по линии Международного фонда избирательных систем прибыла группа независимых экспертов из США.**

Несколько дней они будут изучать социально-политическую обстановку в республике и существующее законодательство о выборах, чтобы определить возможности оказания помощи в проведении в Республике Беларусь будущих выборов.

Запланированы также встречи зарубежных экспертов с представителями различных политических движений Беларуси.

### Получи и распишись

**Совет Министров Республики Беларусь подготовил и направил в Верховный Совет проект Закона "О внесении изменений и дополнений в Закон "О предприятиях в Республике Беларусь".**

В нем предлагается размер оплаты труда работников государственных предприятий устанавливать Совету Министров или в порядке, им определенном.

Правительство хочет таким образом снизить инфляцию и не допустить необоснованных выплат работникам.

Лариса КЛЮЧНИКОВА.

### Кредитные реки обмелеют?

**Национальным банком Беларуси подготовлен к рассмотрению на 13-й сессии Верховного Совета проект документа по вопросам валютной и кредитной политики республики.**

Им предусматриваются объявление расчетных билетов Нацбанка единственным законным платежным средством на территории Беларуси, а также определенные ограничения в сфере кредитных ресурсов.

Сергей СНЕГИН.

### Забастовка на-гора

**Солигорский стачечный комитет и Белорусский независимый профсоюз приняли заявление, в котором поддержали идею проведения 12 января общереспубликанской забастовки.**

Они выдвинули требования: отставка органов представительной власти и их перевыборы в марте 1994 года, создание коалиционного правительства, принятие Конституции Беларуси Конституционным собранием.

Антон ЧЕКОВ.

### От винта

**После долгих лет дислокации из Постав в Россию переезжает ракетная дивизия.**

А белорусской армии оставлена вертолетная эскадрилья, защищавшая ракетчиков с воздуха. Правда, без винтокрылых машин — их россияне забрали с собой.

Сергей ВИТЕБСКИЙ.

### Погода и здоровье

**17 декабря погода в Минске и области будет определяться полем пониженного атмосферного давления. Ожидается снижение содержания кислорода в воздухе (погодная гипоксия).**

Сегодня больные с заболеваниями дыхательной и сердечно-сосудистой систем могут почувствовать недомогание. Им рекомендуется ограничить физическую нагрузку, меньше курить и приналечь на растительную пищу. Не стоит забывать и о регулярном приеме лекарств, назначенных врачом.

Антонина КАРОЗА, научный сотрудник БелНИИ кардиологии.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Мужчынская размова пры зачыненых дзвярах...

Павел СТАСЕВІЧ

Цяжка знайсці словы, якія б правільна адлюстроўвалі тое, што гэтымі днямі адбываецца ў парламенцкай зале.

Грамадзяне рэспублікі маюць магчымасць па прамой радыётрансляцыі самі рабіць высновы з таго шуму-гаму, што ўзняўся пасля даклада старшыні Часовай парламенцкай камісіі для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, А.Лукашэнка. Зразумела, што "тэмпература" ў кулуарах і ў самой зале намнога вышэй, чым адчуваецца па радыё ці тэлебачанні.

"Хвалі" ўзнятай "буры", як і трэба было чакаць, "гойдаліся" і ва ўчарашнім "Розным".

Напрыклад, дэпутат В.Чэпік "дапякаў" С.Шушкевіча за Віскулі і іншыя праблемы жыцця. Дэпутат А.Спіглазаў не згаджаўся з прэсай наконт пазіцыі парламенцкай камісіі па ахове здароўя і па забеспячэнню лекамі інвалідаў і пенсіянераў. Н.Гілевіч гаварыў пра "бруд" у дакладзе А.Лукашэнкі, якім стараюцца "замазаць" амаль усіх. Нават за тое, што на шасцідзесятым годзе жыцця купіў машыну...

Дэпутат І.Лапавухаў гаварыў аб праблемах сельскай гаспадаркі, неаплачаных даўгах вёсцы. В.Малашка засяродзіў сваю ўвагу на папраўках да пенсіённага заканадаўства, якія прапаноўваюць прафсаюзы. А.Малахоўскі непакоіўся за той "разрыў", што назіраецца ў рэспубліцы паміж уладай і народам.

Дэпутат Л.Дзейка звярнуў увагу на суд выканаўчай рады БЗВ з некаторымі народнымі дэпутатамі, якія не з'яўляюцца на судовае пасяджэнне. Што ж тычыцца даклада А.Лукашэнкі, то, на думку Л.Дзейкі, "не зусім зразумела, якімі крытэрыямі прыстойнасці і маралі" той кіраваўся...

Эмацыянальнае "Рознае" закончылася, але да асноўнага пытання — аб эканамічнай праграме ўрада — дэпутаты так і не дайшлі.

Каля мікрафонаў утварыліся гурткі, адкуль спачатку чуліся рэплікі, якія паступова пачалі "перарастаць" у асабістыя абразы.

Пасля баявой "дуэлі" А.Лукашэнкі з С.Шушкевічам работа была амаль сарвана — многія дэпутаты паўскоквалі з месцаў, пачалі групавацца ў кучкі па палітычных сімпатыях. Словам, збоку гледзячы, чамусьці ўспамінаўся былы расійскі парламент...

Выратаваў парламент сваім слушным выступленнем дэпутат Б.Гетц. Ён прапанаваў спыніць гэта "пасмешышча", зрабіць перапынак, а потым правесці закрытае пасяджэнне і пагаварыць па-мужчынску пры зачыненых дзвярах.

Прапанова была з палёгкаю прынята, і дэпутаты праз колькі хвілін рушылі ў залу шукаць нейкі кампраміс без лішніх сведкаў.

Журналістаў, зразумела, пры такіх "разборках" трымаць у сведках таксама не захацелі.

Але ж інфармацыя з-за парламенцкіх дзвярэй патроху прасочваецца. У прынцыпе "тайная" размова мала чым адрозніваецца ад адкрытай. Хіба толькі тон парламенцкай размовы больш даверлівы і шчыры...

Не думаю, каб такая "шчырасць" умацоўвала нашу дзяржаву і давер да Вярхоўнага Савета. Напрыклад, дэпутат Васіль Шачак сказаў, што за гэтыя тры дні парламент даказаў народу сваю няздольнасць змагацца з мафіяй. Лідэр БНФ Зянон Пазьняк таксама быў катэгарычны: нічога асабліва новага ў парламенце не адбываецца — пра ўсё гэта апазіцыя даўно гаварыла і папярэджвала...

Адным словам, Вярхоўны Савет "загарэўся" не на жарт. Як на такім маральным фоне працаваць над сур'ёзнымі эканамічнымі праблемамі — ведаюць, бадай, толькі самі дэпутаты...

## Станіслаў Шушкевіч шпіталізаваны

Вячэрняе закрытае пасяджэнне беларускага парламента 16 снежня адкрыў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслаў Кузняцоў, які паведаміў, што Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч шпіталізаваны з дыягназам гіпертанічны крыз.

Белінфарм.

*Са стэнаграмы сесіі*

**Ва ўчарашнім нумары "Народнай газеты" па просьбе групы народных дэпутатаў і многіх чытачоў былі надрукаваны справаздачны даклад Часовай камісіі Вярхоўнага Савета, з якім выступіў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка, а таксама садаклад народнага дэпутата С.А.Антончыка.**

**Каб пазбегнуць аднабокасці, мы адначасова надрукавалі фрагменты з выступленняў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь А.М.Герасіменкі і старшыні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь С.А.Багданкевіча, якія ў адказ на крытыку выступілі са сваімі контраргументамі.**

**Сёння мы знаёмім чытачоў са скарочанай стэнаграмай выступленняў іншых членаў парламента, якія выступаючы ў спрэчках па дакладу А.Р.Лукашэнкі і садакладу С.А.Антончыка, выказалі свае контраргументы (тэксты друкуюцца на мове арыгіналаў).**

**Вынікі абмеркавання пытання падсуме сесія Вярхоўнага Савета. Пачакаем...**

### З прамовы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь В.В.Чэпіка

...Я хочу выразить свои мысли в том плане, что, к счастью нашему, председатель Национального банка очень, в моем понимании, грамотный, профессиональный и не только теоретик, но и практик. И я считаю, глубоко ошибается тот, кто считает, что все проблемы нашей экономики зарыты в Национальном банке. До тех пор, покуда мы не найдем пути заниматься конкретным производством, ни один банк, ни один председатель, никогда проблему эту не решит.

Как может банк снять все вопросы, о которых идет речь, если у нас сегодня катастрофически падает производство, падает его реализация, ухудшается качество. И вот та самостоятельность, которую мы предоставили абсолютно всем руководителям всех уровней, я и себя к этому отношу, конечно, она заставляет прежде всего думать о себе, а потом о родине. И поэтому, если мы не найдем какие-то пути взяться серьезно за производство, то этих пустых, никому не нужных денег навыпускаем столько, что уже наши дети не рассчитаются, и на внуков много чего ляжет. Поэтому надо искать, а я убежден, я согласен с председателем Национального банка, что эти деньги где-то осели в других моментах. И поэтому на других уровнях и кто-то за счет этих денег живет. Поэтому надо найти вот эти крайние структуры наши, и, конечно, рассчитаться с колхозами и совхозами без всякого сомнения надо давно...

### З прамовы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча

Я лічу сваім маральным абавязкам даць даведку і таму прашу мяне выслухаць.

Паважаныя народныя дэпутаты! Я думаю, што калі існуе дзяржава, у якой вышэйшая службовая асоба прымае незаконнае рашэнне аб тым, каб перадаць 200 гектараў зямлі нейкай прыватнай структуры, прымае незаконным чынам, такая дзяржава не заслугоўвае павагі, а такая службовая асоба павінна быць адразу ж адхілена ад сваёй пасады.

У чым тут справа?.. Я прынёс першасны дакумент — пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб выдзяленні гэтай зямлі. Вы глядзіце, што адбылося... Адбылося наступнае: мы перажывалі час, калі ў нас не было бланкаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета. І тут напісана: "Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета. У адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб зямлі Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе" — і далей тая пастанова. Ніякага сумнення ў дзіцяці быць не можа. Ну а ў старшыні камісіі можа. Таму, што ён бачыць усюды злачынцаў. Але давайце сабе ўявім, што я тут нешта зрабіў. Надрукавана гэта пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў Ведамасцях N 18 за 1992 год. Цяпер, чаму мы яе прымалі шляхам апытання? Прымалі шляхам апытання таму, што ў нас ёсць складаныя пытанні, калі мы не прыходзім адразу да пэўнай высновы. Падзяліліся галасы на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. І мы, як у такіх выпадках бывае, вырашылі, што можна ўдакладніць фармулёўкі і прыняць шляхам апытання. Значыцца, мы прымаем такую пастанову. Яна канстатуецца пратакольна...

... Цяпер наконт персанальнай крытыкі. Я хачу вам сказаць: каб вы былі сумленным чалавекам, вы б падышлі да мяне, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, і запыталіся, што гэта за аб'ект. Я і сам ледзь шыю не зламаў. Вы мяне прабачце, першы аб'ект — вуліца Чарвякова, гэта магіла маёй маці, на якой хуліганнё разбурыла помнік. І я, набыўшы камень, заказаў у Савеце Міністраў за поўную аплату, каб мне ўстанавілі гэты камень... Я адказваю вам — ніякіх аб'ектаў я не будую, акрамя таго, што я пабудаваў на універсітэцкай тэрыторыі сваімі рукамі. І калі вы знаходзіце, што нехта мне танней гэта зрабіў, я думаю, што гэта не так. Таму што я звычайна плаціў такія грошы, ад якіх я шалеў. Гэта былі 2—3 мае заработныя платы за невялікую работу, якая выконвалася за паўтыдня, максімум — за тыдзень адным альбо двума чалавекамі...

...Паважаныя народныя дэпутаты! Вывучаць дзейнасць структур трэба для таго, каб выкараняць адмоўныя з'явы ў нашым грамадстве. Дзе гэтыя прапановы? Дзе прапановы аб тым, хто і якія законы павінен карэкціраваць, каб выкараніць гэта. Дзе прапановы, дэпутацкія прапановы, дзе дэпутацкая заканадаўчая ініцыятыва? Таму, я думаю, мы можам мець вельмі вялікую імпрэзу, калі чалавек выступае і па сродках масавай інфармацыі, па тых вось нагорнутых зверху ўсялякіх паперках, па недакладных звестках абвінавачвае ўсіх і ўся. І калі на фоне аднаго сапраўднага абвінавачвання мажуцца граззю кіраўнікі, у тым ліку кіраўнікі рэспублікі, я лічу, гэта недапушчальна...

... Можна я, Вячаслаў Францавіч, зачытаю ліст, які мне напісалі? "Уважаемый Станислав Станиславович! Проверка РСУ не окончена. Никто справку не подписывал и не визировал. Здесь полная фальсификация, там ничего ненормального нет, все в порядке. С уважением Кебич".

### З прамовы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь У.М.Заблоцкага

Уважаемые народные депутаты! Конечно, можно собирать компромат на своих возможных вероятных конкурентов, но надо делать это с совестью. Дома у меня нет. Машину я купил за 30 тысяч тогда, когда семилетние "Жигули" стоили уже 100 тысяч. Вот и вся справка. Поэтому та ложь, которая распространяется, должна вами соответственно восприниматься...

### З прамовы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь І.М.Драбышэўскай

...Прозвучало то, что я ездила в заграничную командировку в ФРГ. Я прошу больше не дискредитировать меня в этом плане. Я не ездила ни разу в служебную командировку в ФРГ по линии Верховного Совета. И ни в одну другую страну за рубеж. Это была моя личная поездка. И то, что Верховный Совет и многие народные депутаты оказали мне материальную и моральную помощь, я им просто искренне благодарна, в том числе и Кебичу Вячеславу Францевичу. В том числе и Войтенкову, в том числе и Кокареко и многим другим...

### З прамовы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь С.І.Навумчыка

Наконт той інфармацыі, якая прагучала ў адрас дэпутатаў апазіцыі.

Першае. Інамаркі. Так, у дэпутата Навумчыка і ў дэпутата Заблоцкага ёсць інамаркі. Але гэтым інамаркам па 15 гадоў, і куплены яны толькі таму, што яны значна танней, чым "Жыгулі", бо мы не сталі пісаць заявы на набыццё машын па-за чаргой.

Другое. Ніхто з дэпутатаў з апазіцыі, у тым ліку і Навумчык, і Заблоцкі, не жыве ў прэстыжных раёнах. Вазьміце карту.

Трэцяе, самае галоўнае. Тут прагучала абвінавачванне і прапанова Лукашэнкі: мне і Антончыку выйсці і сказаць, дзе тыя фонды, дзе тыя грошы, якія даюць замежныя фонды для перадвыбарнай кампаніі. Дзякую. Я і не ведаў, што такі багаты чалавек спадар Лукашэнка, але я з усёй адказнасцю кажу, што ніякія замежныя фонды, у тым ліку і нашы, апазіцыю не фінансуюць. Я падкрэсліваю — ніякія замежныя фонды апазіцыю БНФ не фінансуюць, ні капейкі, ні цэнта.

### З прамовы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь М.М.Маркевіча

...У сувязі з тым, што было адзначана ў бок "Бацькаўшчыны" Гродзенскага культурна-асветніцкага фонда, які ўзнік два гады таму назад на пустым месцы. Які ў дзяржавы (скажам так) не прасіў ні рубля, а на сваю дзейнасць зарабіў сам. І зроблена вельмі вялікая дабрачынная праграма. Я прывяду толькі адзін факт: 100 працэнтаў прыбытку (я ўпэўнены, вы не знойдзеце ніводнай грамадскай арганізацыі) ідзе на дабрачынныя мэты.

Дык вось, у сувязі з тым, што тут прагучала... Я не буду тут нервавацца. У мяне, калі тут ёсць Васіль Іванавіч Шаладонаў, ёсць тры канкрэтныя прапановы.

Першая. Я патрабую, каб асабіста да мяне па інфармацыі спадара Лукашэнкі была ўзбуджана крымінальная справа. Патрабую!

...У тым выпадку, калі мне будзе адмоўлена Васілём Іванавічам Шаладонавым ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, я падаю ў суд на народнага дэпутата Лукашэнку за знявагу майго гонару як грамадзяніна, так і дэпутата.

*Съезды*

## Нашу Палату знают во всем мире

**Белорусские предприниматели смогут учиться в Парижском учебном центре и Лейпцигском центре подготовки менеджеров, а в Объединенных Арабских Эмиратах намечено провести национальную промышленную выставку Республики Беларусь.**

Организует эти и десятки других мероприятий республиканская Торгово-промышленная палата, очередной съезд которой состоялся недавно.

За последние годы, отмечалось на нем, количество членов палаты увеличилось более чем в два с половиной раза. В основном это представители новых форм собственности. Сейчас в ее работе принимают участие свыше 730 предприятий и организаций республики, которым оказывается эффективная помощь, особенно в области маркетинга, установления деловых связей и обучения специалистов.

Белорусская Торгово-промышленная палата установила сотрудничество с более чем полутора десятками зарубежных палат. Она выступила организатором проведения белорусских национальных выставок в Австрии, Польше, Германии. Была инициатором проведения в республике Дней экономики Голландии, Дании, Швеции, Финляндии, ряда земель Германии.

На съезде был принят новый устав Торгово-промышленной палаты, президентом ее избран В.К.Лесун.

Владимир САМОЙЛОВ.

## Заява прэс-службы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

У сувязі з публікацыяй 8 снежня 1993 года ў афіцыйным органе Міністэрства абароны газеце "Во славу Родины" заметак "палітолага" У.Замяталіна "Корабль тонет или его топят?" прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь упаўнаважана заявіць.

Публікацыя службовай асобы (палкоўнік У.Замяталін — начальнік прэс-цэнтра, намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь) па зместу і форме сваіх азначэнняў і ацэнак з'яўляецца няўклюднай спробай уцягнуць чытачоў-вайскоўцаў у палітычную барацьбу, што катэгарычна забаронена законам беларускай дзяржавы, нігілістычны і здзеклівы падыход палкоўніка У.Замяталіна да палітычнага курсу Беларусі, прынятага вышэйшым заканадаўчым органам, ставіць пад сумненне шчырасць лініі кіраўніцтва Міністэрства абароны "Армія па-за палітыкай".

Выкарыстанне афіцыйнай вайсковай асобай выразаў, што знаходзяцца за мяжой этычных і прававых нормаў, тыпу "приземлить депутатов из области дилетантства и абстракций, едва ощутимой ими государственной ответственности", альбо "... сами народные депутаты, видимо, уставшие от неопределенности и привычной жевательно-резиночной формы проведения заседаний, и госфункционеры, ударившие ва-банк" у адносінах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, парламента і ўрада дыскрэдытуе афіцэрскі патэнцыял беларускай арміі.

Адмяжоўваючыся ад нетактоўных і абразлівых нападкаў начальніка прэс-цэнтра Мінабароны на краіны СНД і іх кіраўнікоў, што ўжо выклікалі рэакцыю непаразумення і трактуюцца як праявы знявагі да братніх дзяржаў у пэўных колах беларускай арміі, прэс-служба Вярхоўнага Савета лічыць, што кіраўніцтву Мінабароны нельга не звярнуць увагу на недапушчальнасць падобных акцый з боку афіцыйных службовых асоб апарату міністэрства, а таксама на бачныя выдаткі кадравага пераўтварэння палітычнага выхаваўцеля ў палітолага.

*Факт*

## У Беларусі будзе свая ваенная акадэмія

**Ва Узброеных Сілах рэспублікі пачалася работа па стварэнню ваеннай акадэміі.**

Яна будзе заснавана на базе Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча. Міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі назначыў рабочую групу на чале з цяперашнім начальнікам нацыянальнага агенцтва па кантролю і інспекцыях генерал-маёрам Віктарам Вакарам, якой ужо да студзеня 1994 года трэба прадставіць план паэтапнага стварэння акадэміі.

Рашэннем Савета Міністраў Беларусі фарміраванне ваеннай акадэміі павінна быць закончана да 1 ліпеня 1995 года.

Белінфарм.

